Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

23 – 29 КРАСАВІКА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 20000 РУБЛЁЎ
№17 (209)

## АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

### Маладзечанцы - добрыя сейбіты

Маладзечанскі раён, нягледзячы на сваё не самае паўднёвае становішча ў вобласці, знаходзіцца на трэцім месцы ў правядзенні сяўбы.

А ў нашым рэгіёне (частка Мінскай вобл.) займае першае месца. На другім - Вілейшчына, трэцім - Мядзельскі раён, чацвертым - Валожынскі.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

### «Веды» вяртаюцца

У раёне створаныя тры пярвічныя арганізацыі Беларускага таварыства "Веды": у гімназіі, СШ №1 і ваенным камісарыяце.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

### Развіталіся з пасадамі

Аддзел па гандлі, грамадскім харчаванні, таварах і паслугах Вілейскага райвыканкома даслаў у "РГ" ліст–рэагаванне за подпісам загадчыка аддзела **А. Корсака.**

Аддзелам разгледжаная газетная публікацыя па парушэннях правілаў гандлю ў магазіне №9 дзяржаўнага гандлёва–вытворчага прадпрыемства "Садружнасць". За сакрыццё тавараў ад першаацэнкі, пакупнікоў, адсутнасць кантролю за работай калектыву магазіна вызваленыя ад займаемых пасад в. а. загадчыка магазіна, шэраг прадаўцоў, кантралёр–касір.

Узмоцненая адказнасць кіраўнікоў гандлю за забеспячэнне гандлёвага абслугоўвання насельніцтва.

*Аддзел інфармацыі.*

ВАЛОЖЫН

### Вучням – дапамогу, псіхолагам – веды

На раённым семінары–трэнінгу "Метады дапамогі вучням, якія маюць асобасныя псіхалагічныя праблемы ў школе і сям'і" досведам па праграме UNESCO–Чарнобыль дзяліліся псіхолагі цэнтра сацыяльна–псіхалагічнай рэабілітацыі, што змешчаны ў Аксакаўшчыне.

У штатным раскладзе 12 сярэдніх школ раёна ёсць псіхолагі. І толькі двое з іх набылі гэтую спецыяльнасць у ВНУ. Семінар – практычная дапамога ў рабоце школьных псіхолагаў.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*



ПЭТЭВЭШНІКІ

## Мы будуем горад

***МАЛАДЗЕЧНА. Выпускнікі мясцовага ПТВ–21 будаўнікоў прыклалі руку амаль да ўсіх гарадскіх аб'ектаў, групай выязджалі ў Маскву на перадалімпійскія работы, узводзілі Кашырскую гідраэлектрастанцыю. Яшчэ нядаўна на ўездзе ў горад з боку Мінска стаяў стэнд "Мой горад – мая гордасць", дзе быў намаляваны будаўнік. Такім чынам, адзначаны прыярытэт будаўнічых спецыяльнасцяў. Тым не менш, навучэнцаў ПТВ часцей называюць зняважліва - "хабзайцы". Абрэвіятуру расшыфроўваюць так: "ГПТУ – господи, помоги тупому устроиться". Гавораць, што сацыялістычная сістэма нарадзіла клас пэтэвэшнікаў, які ўвесь час падпітвае крымінальнае асяроддзе.***

– Яшчэ нядаўна на лініі гарадскіх аўтобусаў працаваў адзін са старэйшых вадзіцеляў аўтапарка, – расказвае дырэктар ПТВ №21 Міхаіл Шніп, – дык ён прыпынак нашага вучылішча інакш, як "ФЗУ", не называў. Хаця з часам сістэма навучання змянілася поўнасцю. У 1960–х гадах "фэзэушнікі" мелі сваю форму, штораніцы выстройваліся на праверку (менавіта знешняга выгляду), атрымлівалі звальненні ў горад. Ад армейскіх парадкаў мы далёка адышлі, а па якасці навучання значна ўзняліся. Бывае, прыходзяць вучыцца з сярэднім балам пасведчання за 9 класаў 4,7. Летась 24 нашы выпускнікі паступілі ў ВНУ і тэхнікумы. А ў 1997 годзе – 42. Адзін з нашых – студэнт духоўнай семінарыі.



*Міхаіл Шніп сядзіць у крэсле, зробленым рукамі навучэнцаў вучылішча.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

***– Высокі сярэдні бал пасведчання за 9–годку, хутчэй за ўсё, выключэнне?***

– Мы набіраем па 7 спецыяльнасцях. На некаторыя з іх конкурсы – па 2–3 чалавекі на месца. На першай лінейцы я заўсёды навучэнцам шчыра гавару: "Вы прыйшлі, каб пазбавіцца ад шкалярства. Большасць былі апошнія ў класе. Вас не бралі ў самадзейнасць, каманды КВЗ. Тут у вас ёсць магчымасць раскрыцца як асоба". І для гэтага ў вучылішчы ёсць усе ўмовы.

***– Звычайна дырэктары навучальных устаноў скардзяцца на адсутнасць умоў.***

– Магу прывесці такі прыклад: падчас практыкі навучэнцы зарабілі каля 3 мільярдаў рублёў. 25 працэнтаў грошай застаецца ў вучылішчы. А яшчэ ўлічвайце рабочыя рукі нашых навучэнцаў. Лічу, што ў Маладзечне ёсць дзве шыкоўныя актавыя залы: у музвучылішчы і ў нас.

***– У горадзе сваё вучылішча будаўнікоў. А ўвесь час на рынку працы патрабуюцца будаўнікі. Парадокс?***

– Многія ідуць вучыцца, таму што ідзе сусед Вася, пра спецыяльнасць нічога не ведаюць. Таму бывае, што пасля атрымання дыплома нават і не спрабуюць працаваць. Іншыя шукаюць работу за мяжой. А чаму б нам не ганарыцца, што навыкі, якія мы далі, запатрабаваныя?

Сёлета па выніках падрыхтоўкі вучэбна–матэрыяльнай базы да навучальнага года вучылішча заняло І месца ў вобласці і ІІІ месца на Рэспубліканскай выстаўцы тэхнічнай і мастацкай творчасці.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

## Расклад руху ЭЛЕКТРЫЧАК з 18 красавіка

### Па рабочых днях

| Маладзечна-Мінск Адпр. | Маладзечна-Мінск Прыб. | Мінск-Маладзечна Адпр. | Мінск-Маладзечна Прыб. |
|---|---|---|---|
| 4–32* | 6–12 | 4–28 | 6–04 |
| 5–30 | 7–17 | 5–24 | 7–09 |
| 6–03* | 7–45 | 6–32 | 8–11 |
| 6–30 | 8–19 | 6–58 | 8–20 |
| 7–42 | 9–29 | 7–37 | 9–30 |
| 8–24 | 10–12 | 8–15 | 10–02 |
| 8–59 | 10–47 | 9–00 | 10–47 |
| 9–55 | 11–44 | 9–53 | 11–41 |
| 10–41 | 12–29 | 11–03 | 12–51 |
| 12–55 | 14–43 | 12–00 | 13–47 |
| 13–42 | 15–29 | 12–56 | 14–42 |
| 14–34 | 16–24 | 13–38 | 15–26 |
| 15–31 | 17–19 | **14–59** | **16–40** |
| **16–02*** | **17–34** | 15–36 | 17–22 |
| 16–26 | 18–13 | 16–15 | 18–02 |
| 17–20* | 19–01 | 16–53 | 18–51 |
| 17–50 | 19–36 | 17–41 | 19–28 |
| 18–27 | 20–13 | 18–27 | 20–15 |
| 19–48* | 21–28 | 19–13 | 21–00 |
| 20–26* | 22–08 | 20–26 | 22–10 |
| 21–09* | 22–53 | 21–14 | 22–58 |
| 22–25* | 23–49 | 22–38 | 0–18 |

**Тлустым шрыфтам дадзены расклад руху цягніка толькі па пятніцах**

### Па суботах

| Маладзечна-Мінск Адпр. | Маладзечна-Мінск Прыб. | Мінск-Маладзечна Адпр. | Мінск-Маладзечна Прыб. |
|---|---|---|---|
| 4–32* | 6–12 | 4–28 | 6–04 |
| 5–30 | 7–17 | 5–24 | 7–09 |
| 6–03* | 7–45 | 6–32 | 8–11 |
| 6–30 | 8–19 | 6–58 | 8–20 |
| 7–26* | 9–04 | 7–37 | 9–19 |
| 8–23* | 9–49 | 8–21 | 10–02 |
| 8–47* | 10–29 | 9–10 | 10–47 |
| 9–48 | 11–35 | 9–42 | 11–21 |
| 10–41 | 12–29 | 10–36 | 12–24 |
| 11–43* | 13–22 | 11–03 | 12–51 |
| 12–55 | 14–43 | 12–00 | 13–47 |
| 13–42 | 15–29 | 12–56 | 14–42 |
| 14–34 | 16–24 | 13–38 | 15–26 |
| 15–31 | 17–19 | 14–59 | 16–40 |
| 16–02* | 17–34 | 15–36 | 17–22 |
| 16–26 | 18–13 | 16–15 | 18–02 |
| 17–20* | 19–01 | 16–53 | 18–51 |
| 17–50 | 19–36 | 17–41 | 19–28 |
| 18–27 | 20–13 | 18–27 | 20–15 |
| 19–48* | 21–08 | 19–13 | 21–00 |
| 20–26* | 22–08 | 20–26 | 22–10 |
| 21–09* | 22–53 | 21–14 | 22–58 |
| 22–25* | 23–49 | 22–38 | 0–18 |

### Па нядзелях

| Маладзечна-Мінск Адпр. | Маладзечна-Мінск Прыб. | Мінск-Маладзечна Адпр. | Мінск-Маладзечна Прыб. |
|---|---|---|---|
| 4–32* | 6–12 | 4–28 | 6–04 |
| 5–30 | 7–17 | 5–24 | 7–09 |
| 6–03* | 7–45 | 6–32 | 8–11 |
| 6–30 | 8–19 | 6–58 | 8–20 |
| 7–42 | 9–29 | 7–37 | 9–30 |
| 8–24 | 10–12 | 8–15 | 10–02 |
| 8–59 | 10–47 | 9–00 | 10–47 |
| 9–55 | 11–44 | 9–42 | 11–21 |
| 10–41 | 12–29 | 9–53 | 11–41 |
| 11–41 | 13–29 | 11–03 | 12–51 |
| 12–34* | 14–19 | 12–00 | 13–47 |
| 13–24* | 15–12 | 12–56 | 14–42 |
| 14–13* | 15–48 | 13–38 | 15–26 |
| 15–00* | 16–38 | 14–59 | 16–40 |
| 15–29* | 17–08 | 15–36 | 17–22 |
| 16–26 | 18–13 | 16–15 | 18–02 |
| 17–03* | 18–39 | 16–39 | 18–14 |
| 17–50 | 19–36 | 17–35 | 19–07 |
| 18–36* | 20–14 | 18–16 | 19–52 |
| 19–03* | 20–37 | 18–40 | 20–31 |
| 19–48* | 21–28 | 19–37 | 21–24 |
| 20–26* | 22–08 | 20–26 | 22–10 |
| 21–09* | 22–53 | 21–14 | 22–58 |
| 22–25* | 23–49 | 22–38 | 0–18 |

* электрацягнікі, якія спыняюцца не на ўсіх станцыях і прыпынках. Таму зрабіце неабходныя вам удакладненні непасрэдна на вакзале. Пра магчымыя змяненні ў раскладзе – даведкі па тэл. 70848, 42423.

КРЭДЫТЫ

## Грошы "зрабілі ногі"?

***МАЛАДЗЕЧНА. Кампанія па вяртанні крэдытаў горад не абмінула. Апошнім часам міжрайаддзел абласнога ўпраўлення камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі ўзбудзіў дзве крымінальныя справы. Пошук даўжнікоў працягваецца. Аднак патрабаваць грошы атрымліваецца не ва ўсіх. Прыкладам, Рыгор Зінько ("Айра"), Віктар Пракапенка знаходзяцца далёка за мяжой, па–за дасягальнасцю і банкаў, і органаў.***

На ўзроўні рэспублікі прагучала прозвішча маладзечанца **Алега Жукоўскага**. Па дадзеных міжрайаддзела, свой першы крэдыт, узяты ў філіяле "Брэсткамбанка", прадпрымальнік вярнуў з працэнтамі – 12 тысяч долараў.

– Аднак,– гаворыць начальнік міжрайаддзела **Віталь Дубовік**,– узбуджаная крымінальная справа, бо афармлялі крэдыт родныя прадпрымальніка па фіктыўных даведках.

І па другім, узятым у гэтым жа філіяле, узніклі пытанні.

Тры гады таму фірма "Захарыя", да якой ён меў дачыненне, праз банк атрымала 56 тысяч долараў. Пазней 14 тысяч былі ўнесеныя ў кошт пагашэння валютнага крэдыту. Пад астатнія "зялёныя" закладзена маёмасць фірмы. Сёння высвятляецца законнасць гэтага дзеяння. І ёсць пэўныя падазрэнні, што маёмасць няправільна ацэненая – свядома значна павялічана ў кошце.

Дырэктар Маладзечанскага філіяла «Белкамбанка» **Ніна Руткоўская**:

– Алег Жукоўскі за даўгі па крэдыце ў 56 тысяч долараў перадаў банку будынак сваёй фірмы. Іншая справа, я магу гэты будынак (былы банк "Альянс" на Старым Месце) прадаць і, калі палічу, што атрыманая сума не кампенсуе крэдыт, магу выставіць іскі на іншую яго маёмасць.

**– Гавораць, што кошт закладзенай маёмасці быў свядома завышаны.**

– На той час гэта быў высокаліквідны залог. Тады долар быў стабільны – каля 11 тысяч. Зарплата насельніцтва – 100 долараў і вышэй. Шмат хто жадаў набыць закладзены будынак за добрыя грошы.

**– На вашу думку, чаму Жукоўскі апынуўся ў такой сітуацыі?**

– Ведаю, што яго "кінулі" некалькі фірмаў. Карацей, былі ў яго і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя прычыны.

Чатыры гады таму фірма "Славяне" узяла крэдыт – 1 мільярд 200 мільёнаў рублёў. На той час гэта дзесьці 120 тысяч долараў. Грошы разышліся не па прызначэнні. Узбуджана крымінальная справа.

Кіраўнікі банкаў гавораць, што далёка не заўсёды прадпрымальнікі бралі крэдыты, каб толькі пусціць іх на сябе. Са студзеня 1995 па сакавік 1996 долар трымаўся на ўзроўні 11,5 тысяч рублёў. Інфляцыя нашага "драўлянага" ішла хутка, таму браць валютны крэдыт было выгадна. А вось вярнуць – не заўсёды магчыма. У 1996 долар з абароту банкаў пачаў знікаць. За рублі немагчыма было набыць валюту, расплаціцца з банкамі. А што тычыцца наогул крэдытаў, іх бралі на набыццё тавараў, сыравіны.



*Помнік, які пакінула пасля сябе ў Маладзечне фірма "Айра": двор за былым «пятнаццатым» магазінам. Гараджане, калі праходзяць у тым месцы па вуліцы Прытыцкага, колькі ўжо год бачаць толькі бетонны плот. Здымак зроблены «знутры». Можа, у бетоне замураваныя сотні, тысячы "зялёных" – частка банкаўскіх крэдытаў?*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*Заканчэнне на 3-й ст.*

*27 красавіка ў выставачнай зале Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея (пл. Свабоды, 1),*

**адкрываецца выстаўка мінскай мастачкі ТАМАРЫ БАГДАНАВАЙ**

Унікальныя карціны: іконы, пейзажы выкананыя аб"ёмнай вышыўкай. Выстаўка працуе з 10.00 да 19.00 штодзённа, без выхадных. Кошт білетаў 20 тыс. руб. (дзіцячы) і 60 тыс. руб. (поўны).

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# Здарэнне пад Гарадком

***В. Жора (каля Даўгінова) Віленскай губ. Вілейскага пав.***

У нашай вёсцэ 48 хат, народу 317 душ: зямлі ўсёй будзе 500 дзесяцін; даўжыні будзе якіх паўтары вярсты. Іосць і багатыя гаспадары, а найбольш бедныя, дый неграматные.

У 1907 гаду аткрылі ў нас вучылішчэ. Вучаць там, як і ў кожным вучылішчы. Лепш было бы завясьці школу сельскай гаспадаркі, гэта патрэбна для жыцьця.

Хата для школы нізкая, дзьверы няшчыльныя: зімой чад і цёмна, стоража німа, вучні самі цягаюць дровы і мятуць. Прад вялікаднем зачадзіліся 7 хлопчыкаў і 5 дзеўчат, ледзьве іх адратавалі.

*В. Сос–кі.*

***Г. Радашковічы, Віленскай губ. Вілейскага пав.***

Прыезджаў недаўна інспектар народных вучылішч з Вілейкі і даў прыказ, каб усе вучні гарадзкога вучылішча зрабілі "форму". Бацькі мальцоў – мейсцовые мешчане і мужыкі землеробы з суседніх вёсак – ня могуць зразумець, чаму сыны іх павінны завадзіць панічоўскую адзежу, – перш, што гэта дарага каштуе, а другое, што пры балоце радашкоўскім на вуліцах і пры жыццю простым, як жывуць беларускія дзеці, адзежа "панская" скора падзярэцца; хіба ў дождж і сьнег за сваімі хлопцамі бацькі з вёсак будуць пасылаць карэты! Прыпамінаецца нeяк апаваданьне расейскаго пісара Чэхова "Чалавек у футляры"...

*Вецер.*

***М. Гарадок, Віленскай губ. Вілейскага пав.***

Гэта было ў засц. Горках, недалёка ад мястэчка; 5 марца паехала ўдава Антуковічыха ў Гарадок пазычаць грошы ў так–званым памешчыцкім банку і ўзяла з сабой паручыцелёў, а як дала ім добра гарэлкі, дык аднаго прывязла да хаты ўжо нежывога. Кажуць, як яна садзіла іх на воз вязьці дамоў, то яны ўжо добра былі насьцебаўшыся гарэлкі; вось яна кожнаму падвязала хусткай пад бараду шапкі, каб не згубілі; ці хусткі гэтыя туга заціснуліся, ці што, – толькі прывязла дамоў нябошчыка. Паўлюк Лаўрычонак, нябошчык, заўсягды любіў выпіць і мусіць перэдаў гарэлкі, небарака, а меў ён склад да яе.

***Гарадоцкі.***

Першая Беларуская Газета з Рысункамі "Наша Ніва" №17 ад 23 апрыля 1909 г.

**Падрыхтаваў Алесь Высоцкі.**

МАСТАЦТВА

# Позірк у мінулае

***РАДАШКОВІЧЫ. Мясцовыя майстры – мастак Фёдар Свісцільнік, ганчар Валерый Бусараў сваю творчасць дэманстравалі ў сталіцы – абласным Доме творчасці, у Маладзечне – цэнтральнай гарадской бібліятэцы. Гэтыя выстаўкі - позірк у мінулае Радашковічаў. Прыкладам, карціна Фёдара Свісцільніка "Капліца".***

Пенсіянерка Ганна Кіцінская гаворыць:

– Капліцу пабудавалі ў 1835 годзе Валаткевічы. Побач з ёй пахаванае цэлае пакаленне гэтай сям'і. У свой час Валаткевічы мелі папяровую фабрыку на Віцебшчыне. Капліца была адчыненая, пакуль ксяндза Стэфана Шыманскага не рэпрэсіравалі (дарэчы, мяжа паміж Заходняй і Усходняй Беларуссю праходзіла якраз уздоўж агароджы могілак. А касцёл пачаў дзейнічаць толькі напачатку 90–х). Сёння ад капліцы засталіся толькі сцены. Тое, што не паламалі, падпалілі.

Побач з капліцай над магілай Аляксандра Завусцінскага стаіць скульптура Ісуса Хрыста без адной рукі.

– Падчас Другой сусветнай вайны, – расказвае жанчына, – асколак нямецкай бомбы зрэзаў у скульптуры руку. Цяпер праз адтуліну ў скульптуру трапляюць вароны і робяць там гнёзды.

Фёдар Свісцільнік выкладае ў мясцовай дзіцячай мастацкай школе. На пытанне пра прычыны з"яўлення карціны, адказаў:

– Напісаў яе ў 1992 годзе. Калі пераехаў з Адэсы ў Радашковічы, упершыню блізка сутыкнуўся з каталіцкай культурай. Як мастака, мяне шмат што зачаравала. Гэтыя перамены ў свядомасці і захацелася выразіць на палатне.

Не ўсе работы, якія дэманстраваліся на выстаўцы, вярнуліся дадому, у Радашковічы. Некаторыя кампазіцыі былі прададзеныя, што, натуральна, прыемна ўсведамляць аўтарам – дзецям.

**Надзея ЛІСАВА.**



*Фёдар Свісцільнік ля свайго палатна.*
ФОТА АНАТОЛЯ ГРЫЦКОВА.

БІЯГРАФІІ

# "Злодзея" не надрукавалі, і ён згубіўся

***Ядвігін Ш. – літаратурны псеўданім Антона Лявіцкага. На жаль, яго літаратурная спадчына шырокаму колу грамадскасці малавядомая. Аднак краязнаўцы Генадзь Каханоўскі, Вячаслаў Ляшковіч паклапаціліся, каб Маладзечаншчына ўшанавала яго памяць. На помніку ля вёскі Мясата сярод імёнаў людзей, чые жыццёвыя шляхі перакрыжаваліся на нашай зямлі, ёсць і прозвішча Ядвігін Ш. Апроч гэтага, у Радашковічах, непадалёку ад аптэкі, стаіць такі ж вялікі камень–валун, мемарыяльная дошка на якім гаворыць, што ў гэтым мястэчку ў свой час жыў і працаваў Ядвігін Ш.***

Нядаўна споўнілася 130 год з дня нараджэння вядомага літаратара. Гэты юбілей, здаецца, прайшоў незаўважаным.

Нарадзіўся Антон Лявіцкі ў сям'і ўпраўляючага маёнтка на Магілёўшчыне, але большая частка яго жыцця прайшла ў фальварку Карпілаўка на Лагойшчыне. Калі хлопчыку споўнілася 8, яго аддалі вучыцца, але не ў школу, а ў сям'ю Вінцэнта Дуніна–Марцінкевіча, які да таго часу набыў фальварак Люцынка на краі Налібоцкай пушчы на Валожыншчыне.

Адукацыяй будучага дзеяча беларускай нацыянальнай культуры займалася старэйшая дачка гаспадара фальварка Каміла. У Люцынку таго часу часта з'язджаліся з усіх куткоў Беларусі прадстаўнікі дэмакратычнай інтэлігенцыі: Уладзіслаў Сыракомля, Станіслаў Манюшка, скрыпач і кампазітар Канстанцін Кржыжаноўскі, іншыя. Вабіў іх сюды чалавек добрай душы, верны сябра, выключны імправізатар і жартаўнік Дунін–Марцінкевіч.

У Люцынку яшчэ спяшаліся і таму, што там адбываліся прэм'еры оперы ці святочнага вадэвіля, аўтарам лібрэта якіх быў сам драматург. Выканаўцамі і музыкантамі выступалі дзеці Дуніна–Марцінкевіча і іх вучні. Сярод апошніх быў Антон Лявіцкі. Вось у такіх абставінах фарміраваўся яго жыццёвы светапогляд і літаратурныя схільнасці.

У 1880 годзе ён скончыў Мінскую гімназію і паступіў у Маскоўскі ўніверсітэт на медыцынскі факультэт. Аднак доўга вучыцца там не давялося, бо сцены гэтай навучальнай установы ў той час поўніліся студэнцкімі хваляваннямі, у якіх узяў удзел і студэнт з Беларусі. За гэта яго выключылі з універсітэта і некалькі месяцаў наш зямляк знаходзіўся ў Бутырскай турме. Там упершыню ўзяўся за пяро, але ў якасці перакладчыка твораў рускіх пісьменнікаў на беларускую мову.

Пасля выхаду з турмы Антон Лявіцкі вярнуўся ў родную Карпілаўку і ў Мінску праходзіў стажыроўку на фармацэўта, а затым працаваў аптэкарам у Радашковічах. Тут ён напісаў першы свой драматычны твор "Злодзей". Ужо ў той час у Радашковічах дзейнічаў самадзейны тэатральны гурток беларусаў–інтэлігентаў, які ўзяўся ажыццявіць драму Лявіцкага на сцэне. Пачаліся рэпетыцыі, і сам аўтар браў у іх удзел, але да прэм'еры справа не дайшла. Даведаўшыся, што твор на беларускай мове, паліцыянты пастаноўку забаранілі. Больш за тое, драма "Злодзей" так і не была надрукаваная, а рукапіс, на вялікі жаль, згубіўся.

У далейшым Ядвігін Ш. працягваў перакладаць на беларускую мову творы рускіх і польскіх пісьменнікаў. Першым яго творам, напісаным на беларускай мове, было апавяданне "Суд". У гэты час Антон Лявіцкі друкуецца ў газетах і часопісах пад псеўданімам Ядвігін Ш.

Шэраг апавяданняў, напісаных ім у 1911–1912 гадах, выйшаў у друку ў зборніках "Васілёк" і "Бярозка".

Ядвігін Ш. любіў Беларусь, шанаваў мову яе народа і любіў вандраваць па яе зямлі. У 1910 годзе ён з Вільні прайшоў пешшу 500 км праз Валожыншчыну, Маладзечна, Радашковічы ў Карпілаўку. Свае ўражанні пакінуў на старонках "Нашай Нівы" пад загалоўкам "Лісты з дарогі". Уваходзячы з боку Івянца ў Пяршаі, Ядвігін Ш. так напісаў пра гэта паселішча: "Вось і Пяршаі: вялікая вёска, касцёл, двор; тут жа і палацы Пяршайскага графа Тышкевіча. Тутака мова беларуская трымаецца яшчэ добра; хаткі вясёленькія, зямля добрая, але, вядома, як усюды, скупа яе..."

У 1920 годзе Ядвігін Ш. цяжка захварэў, лячыўся ў Вільні. Хвароба адолела яго, і праз два гады ён памер. Пахаваны на Віленскіх могілках.

Пісьменнік, паэт і публіцыст Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі) быў адным з пачынальнікаў беларускай літаратуры і пакінуў значны след на ніве адраджэння беларускай нацыянальнай культуры.

**Любоў КАРПОВІЧ.**

ЛІКБЕЗ

# Пра гэта...

***МАЛАДЗЕЧНА. : У горадзе з 1996 года ў жаночай кансультацыі адкрыты ананімны прыём для маладых дзяўчат, на якім іх аглядаюць і назначаюць кантрацэпцыю ў залежнасці ад узросту, сексуальнай актыўнасці партнёраў, фізіялагічнага стану здароўя. На прыём можна прыйсці са сваім палавым партнёрам.***

**Ірына Семянцова**, адзіны ўрач у Маладзечне, які здзяйсняе такі прыём, згадзілася пагаварыць пра яго:

– Прыходзяць, у асноўным, з цікавасці. Запамінаюцца дзяўчаты, у якіх сур'ёзныя праблемы. Хаця адных і тых жа па некалькі разоў не бачыла. Звяртаюцца да мяне толькі дзяўчаты–падлеткі, але мала. Тым больш, ніхто не асмельваецца прыйсці са сваім палавым партнёрам. Магчыма, саромеюцца або проста не маюць патрэбы?

А магчымасць добрая – можна прыйсці і проста пагаварыць з урачом пра пытанні, якія цябе хвалююць. У гэтым выпадку яго зусім не цікавіць тваё імя, яму патрэбна ведаць толькі тваю фізіялогію. Столькі жыццёвых памылак можна прадухіліць...

Ірына Семянцова расказала, што ёсць дзяўчаты, якія пачынаюць палавое жыццё ўжо з 11–12 год. І мала хто з іх ведае, што дзяўчатам да 16 год нельга выкарыстоўваць для кантрацэпцыі таблеткі. Але можна засцерагацца пры дапамозе спермецыдаў (г. зн., хімічных прэпаратаў), спрынцавання, фізіялагічным спосабам. Для больш дарослага кантынгенту ўрач параіла тры спосабы: гармапальную кантрацэпцыю, гарманальную кантрацэпцыю + спермецыды, прэзерватыў + спермецыды.

Жадаючыя могуць прыйсці на прыём у любы час у цотныя дні – з $8^{00}$ да $14^{00}$, а ў няцотныя – з $14^{00}$ да $20^{00}$.

Ірына Семянцова сутыкаецца і з дзяўчатамі, якія прыходзяць з цвёрдым намерам пазбавіцца ад нежаданай цяжарнасці. Многія з іх у адчаі, але, як ні дзіўна, з–за бацькоў, з–за таго, што тыя даведаюцца пра цяжарнасць. Гэтае пачуццё страху з'яўляецца, як лічыць доктар, з–за неразумення і недаверу паміж бацькамі і дзецьмі.

Ідэя стварэння прыёму ўзнікла ў 1996 годзе Ірыны Семянцовай, якая працавала тады акушэрам–гінеколагам:

– Чытала, што такая практыка існуе ў іншых гарадах. І ў 1996 годзе адбыўся першы прыём. Пра яго з'яўленне ўрачы раддома расказвалі на сваіх лекцыях.

А ў лекцыях па палавым выхаванні, прафілактыцы разнастайных захворванняў у Маладзечне не было, ды і няма цяпер недахопу. Ініцыятыва іх правядзення ідзе ад саміх урачоў. У раддоме арганізаваная лектарская група з 6 чалавек, кіраўніком якой і з'яўляецца Ірына Семянцова. Яна адзначае добрую работу лектараў, якія, нягледзячы на занятасць, ідуць на сустрэчы з дзецьмі. Гэта Таццяна Зяноўка, Алена Пыск, Таццяна Грудкоўская, Вадзім Бяседзін, Сяргей Каўрус. Праводзяцца лекцыі для бацькоў, для педагогаў.

**Іна ВЯЗЕВІЧ.**

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Пазбавілі звання ўдзельніка вайны



*Народны духавы аркестр Маладзечанскай фабрыкі музінтрументаў. Яўген Бяляўскі – у ніжнім радзе крайні справа.*
ФОТА З СЯМЕЙНАГА АЛЬБОМА ЯЎГЕНА БЯЛЯЎСКАГА.

Шмат чаго пабачыў на сваім вяку ўраджэнец Валожыншчыны, франтавік–разведчык, былы саліст Маладзечанскага дзяржаўнага ансамбля песні і танца, адзін са старэйшых настройшчыкаў фабрыкі музінструментаў **Яўген Бяляўскі**.

Ніколі не думаў ён, што па надуманым абвінавачванні ў 1949 годзе, праз 3 гады пасля дэмабілізацыі з войска, на 10 год трапіць за калючы дрот сталінскага ГУЛАГа. Хаця праз 5 год судзімасць была знятая і ён адпушчаны на волю, у 1992 годзе былая душэўная рана зноў дала пра сябе знаць – адным росчыркам пяра пазбавілі ганаровага звання ўдзельніка Вялікай Айчыннай вайны.

Аднак, нягледзячы на відавочную несправядлівасць, гэты надзвычай жыццярадасны, аптымістычны чалавек, як і раней, шмат сіл аддае культурна–адраджэнцкаму жыццю горада. Ён саліст ветэранскага хору клуба "Адпачынак", аўтар і выканаўца ўласных песень.

Цяпер з мастацкім кіраўніком ансамбля "Спадчына" **Іосіфам Сушко** рыхтуе на суд гледачоў новыя творы.

**Алесь ЦАДКО.**

КРЭДЫТЫ

# Грошы "зрабілі ногі"?

*Пачатак на 1-й ст.*

Да прыкладу, заключалі з пастаўшчыком дагавор. Пакуль вырашалі пытанні з банкам, кошт тавараў, сыравіны павялічваўся. Таму крэдыт вымушана ішоў не па прызначэнні. А было і так, што фірмы адна адну "кідалі". Прасілі перадаплату, а затым смяяліся ў твар.

ВАЛОЖЫН. Год таму Маладзечанскім міжрайаддзелам па арганізаванай злачыннасці і карупцыі была ўзбуджаная крымінальная справа ў дачыненні да старшыні праўлення Валожынскага райспажыўтаварыства **Анатоля Протаса**. Кіраўнік і галоўны бухгалатар выкарысталі фіктыўныя дакументы і атрымалі ў філіяле БелАПБ Валожына некалькі крэдытаў на агульную суму 23 мільярды 800 мільёнаў рублёў.

У далейшым крымінальная справа была спыненая, бо Протас на той час з'яўляўся дэпутатам Івянецкага пасялковага савета і, значыць, меў дэпутацкую недатыкальнасць.

Тым не менш, 30 сакавіка ў дачыненні да А. Протаса пракуратурай Мінскай вобласці ўзбуджаная крымінальная справа – па матэрыялах Маладзечанскага міжрайаддзела па арганізаванай злачыннасці і карупцыі. Ён падазраецца ў тым, што падчас работы на пасадзе старшыні праўлення калгаса "Рассвет" з'ездзіў у "службовую" камандзіроўку ў ЗША за кошт калгаса. Візіт да сваякоў у Чыкага пацягнуў на 2 тысячы долараў. Дарэчы, і нявернуты крэдыт, і "камандзіроўка" праходзяць па адным крымінальным артыкуле.

Маладзечанскі міжрайпракурор **Генадзь Вештарт** гаворыць, што з 1994 года ім паступіла 6 паведамленняў па невяртанні крэдытаў (толькі па 1 адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальнай справы). Тыя самыя лічбы ў аддзеле эканамічнай злачыннасці. У мясцовы ГРАУС паступіла 70 паведамленняў – крымінальныя справы заведзеныя па 48.

Па справах, накіраваных у суд, да крымінальнай адказнасці прыцягнута 44 чалавекі. Характэрна, што прыгаворы судоў не апратэстоўваліся. Хаця падчас следства бываюць выпадкі ўціску на мясцовыя праваахоўныя органы.

Па дадзеных маладзечанскай міжрайпракуратуры, месяц таму 8 філіялаў банкаў, што мелі (маюць) маладзечанскую прапіску, неслі страты ад невяртання крэдытаў на суму амаль 14 мільярдаў рублёў, 259810 долараў ЗША і 60000 дойчмарак.

**Віталь КРУПЯНЬКОЎ.**

ПРЫРОДА І МЫ

# Лебедзі і вадаём

***МАЛАДЗЕЧНА. У мікрараёне "Лясныя" ля вуліцы Танкістаў на луг, заліты вадою, прыляцелі 8 лебедзяў.***

Луг звычайна служыць для выпасу кароў, святкавання Купалля. Хутчэй за ўсё, птушкі прынялі яго за вадаём. Гасцей дзеці кормяць хлебам. На 2–3 метры лебедзі падпускаюць да сябе людзей. Мясцовым жа сабакам "залётная" прыгажосць прыйшлася недаспадобы.

**Аддзел інфармацыі.**

# Мядзел зелянее

***МЯДЗЕЛ. Добры крок зрабілі мясцовыя камунальнікі, каб азеляніць горад. Апошнім часам яны пасадзілі 206 дрэў і 730 кустоў.***

З дрэваў – больш ліп і каштанаў. Імі засаджаны і гарадскі пляж. Але ёсць і экзатычныя пароды, як, напрыклад, дэкаратыўная піхта, манчжурскі арэх.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 14.04 | 21.04 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 350 | 380 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | 1037 | 1260 |
| Сасіскі | 1 кг | 472 | 445 |
| Селядзец | 1 кг | 300 | 300 |
| Рыс | 1 кг | 170 | 185 |
| Цукар | 1 кг | 135 | 135 |
| Грэчка | 1 кг | 140 | 140 |
| Алей | 1 л | 325 | 340 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | 103 |
| Маянэз | 250 г | 60 | 70–80 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 400 | 400 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 105 | 110 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 110 | 95 |
| Лімоны | 1 кг | 380 | 415 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 180 | 180 |
| Масла | 1 кг | 400 | 400 |
| Тварог | 1 кг | 150 | 150 |
| Малако | 1,5 л | 45 | 45 |
| Бульба | 1 вядро | 320 | 300–340 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 160 | 160 |

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

# Маладзечанцы ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА. На тэрыторыі раёна затрыманы маладзечанец Аляксандр Бондар. Ён без дазволу на прадпрымальніцкую дзейнасць на рынку ў Маладзечне скупіў сала і ў кілбасным цэху Мядзела абмяняў на 421 кілаграм сардэлек. А. Бондар аштрафаваны, сардэлькі канфіскаваныя і рэалізаваныя ў Вілейцы.

Таксама жыхарка Маладзечна Таццяна Нарэйка прывезла ў Вілейку для продажу 400 кілаграмаў масла і 43, 8 кілаграма сыру. Прадукты яна набыла ў Мінску. Тавар канфіскаваны, гандлярка аштрафаваная.

**Аддзел інфармацыі.**

УЗНАГАРОДЖАННІ



# Медаль уручаны

***Медаль «За заслугі ў выяўленчым мастацтве» уручаны маладзечанцу Кастусю ХАРАШЭВІЧУ.***

Дыплом да медаля Канстанцін Іванавіч атрымаў узімку, а на бланкі пасведчанняў Саюз мастакоў яшчэ збірае грошы. У нас няма звестак аб тым, што хтосьці яшчэ з нашага рэгіёна быў адзначаны такой узнагародай Саюза мастакоў. Кастусь Харашэвіч працуе ў жывапісе некалькі дзесяткаў год, неаднойчы яго работы экспанаваліся ў Беларусі і за яе межамі. А пра экспазіцыю, якая адкрылася ў сакавіку гэтага года ў Вілейцы, «РГ» пісала ў адным з мінулых нумароў.

**Аддзел інфармацыі.**

КРАЯЗНАЎСТВА

# У Плябані ўзнік архітэктурны комплекс

***МАЛАДЗЕЧНА. У Плябані адкрыўся філіял Дзяржаўнага музея гісторыі і беларускай літаратуры. Па краіне такіх 24. Бліжэйшыя – у Залессі, Гарадку, Ракуцёўшчыне. Вяска Плябань абраная невыпадкова. Тут пахаваныя ўдзельнікі паўстання 1863 года, у Другую сусветную вайну вяліся баявыя дзеянні, ды і з рэлігійным храмам здараюцца цікавыя рэчы. Будынак царквы пертвараецца ў касцёл і наадварот.***

Кіраваць музеем у Плябані прапанавалі адукаванаму і апантанаму чалавеку Святлане Паркалавай. Яна скончыла музвучылішча, вучылася ў кансерваторыі, затым былі тэатральна–мастацкі і інстытут праблем культуры. Працавала на "Беларусьфільме", дырэктарам музея Дзяржцырка. Тое, што месца для музея абрана ўдалае і кіраўнік падабраны да месца – досвед дырэктара аб'яднання гэтых гісторыка–літаратурных астраўкоў Леаніда Хадкевіча. Да пасады сталічнага чыноўніка ён быў загадчыкам мемарыяльнага кампелксу ў Вязынцы.

## Месца вандалізму

Ля вёскі (праз чыгунку) – старыя каталіцкія могілкі. Пахаваныя тут і тытулаваныя шляхцічы. На адным помніку значыцца дата – 1822 год. Адвечным сном спяць тут, на ўзвышшы, і змагары за волю і незалежнасць Беларусі, якія загінулі ў часы паўстання 1863 года. Гэта Юльян Бакшанскі, Рафал Малішэўскі, Людвік Ямант, Леапольд Банькоўскі.

У людзей, нават кіраўнікоў, сваё стаўленне да памяці, гісторыі. Два разы з брацкай магілы паўстанцаў здзіралі мемарыяльныя дошкі. Жалезны крыжык на адным з помнікаў так і не ўдалося зняць. Відаць, добра замацаваны. Рукі вандалаў яго толькі пагнулі. Самі могілкі поўнасцю зараслі кустамі і дрэвамі, не да кожнага помніка і дабярэшся.

– Звярталіся ў райвыканкам, Красненскі сельсавет, каб з алеі герояў вывезлі кучу смецця, – гаворыць С. Паркалава, – больш за год над гэтым б'юся, але безвынікова.

Калі–нікалі могілкі прыбіраюць госці з Польшчы. Цяпер вось гэтым будуць займацца і супрацоўнікі музея (могілкі за імі замацаваныя). Мясцовыя жыхары і радыя былі б дапамагчы, аднак працаздольных у Плябані няшмат засталося. Мясцовы старажыл, 90–гадовы Мікалай Сасновіч гаворыць, што вёска пусцее з кожным годам.

## І будынкі маюць сваю радаслоўную

Раней у будыніне, дзе цяпер музей, жылі ксяндзы. Ксяндза Сечку памятаюць як хворага на галаву. Ля дома трымаў дзесяткі сабак. Нават зімой запрагаў іх у сані. А каб падтрымліваць сярод жывёлін парадак, наняў дзеля іх ахову, даглядчыкаў.

А вось апошняга ксяндза-пралата ўспамінаюць з цеплынёй. Ён трымаў у доме бібліятэку, вучыў мясцовых грамаце. Стварыў самадзейны тэатр і ў сябе праводзіў рэпетыцыі духоўных спектакляў. Адзін з пакояў нават абсталяваў пад кіназалу – пракручваў вяскоўцам нямое кіно. Да Другой сусветнай вайны пралат распачаў будаўніцтва дома для нямоглых. Падчас вайны ратаваў у касцёле партызанаў. За гэта немцы недзе пад Вілейкай яго расстралялі.

Музей у Плябані толькі ўтварыўся і таму тры яго выставачныя залы змесцяць яшчэ не адзін экспанат. Пакуль тут размешчаныя дакументы, газеты, часопісы, кнігі пісьменнікаў, паэтаў, грамадскіх дзеячаў ад ваеннага ліхалецця 40–х да сённяшняга часу. Там жа апошнія навінкі беларускай літаратуры, карціны сучасных мастакоў.

Добра, што аб'яднанне музеяў набыло работы маладзечанца Юрыя Герасіменкі. Дарэчы, бабулі, якія прыходзяць у музей, на іх хрысцяцца.

– Падчас апошняй вайны, – гаворыць Святлана Паркалава, – у будынку музея быў лазарэт, каля 500 параненых. Таму працяг ваеннай тэмы – заканамернасць.

Адна з праблем загадчыцы музея – немагчымасць трапіць у архіў Вільні. Менавіта там, па яе словах, сабраная гісторыя Плябані.

**Віталь КРУПЯНЬКОЎ.**



*Здымак з музейнага ганка.*



*Каталіцкі і праваслаўны крыжы суседнічаюць.*



*Святлана Паркалава.*



*Работніца музея, мясцовая жыхарка Вольга Серадзінава па веравызнанні праваслаўная, распісваецца лацінкай.*

*Мікалай Сасновіч нарэзаў пруткі для кошыка.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

У ВОЛЬНУЮ ХВІЛІНУ

# Крыжаванка гістарычная



**Па гарызанталях:** 2. Друкарскі станок. 4. Вайсковая адзінка ў велікакняжацкім войску. 6. Грамата, якая вызначала пэўныя падаткі, павіннасці, абавязкі і да т. п. 7. Багаты апякун навук і мастацтва. 8. Частка горада, якая падпарадкоўвалася феадалам і на жыхароў якой не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада магістрата. 9. Усеагульная мабілізацыя, збор апалчэння ў ВКЛ. 11. Буйны targовы шлях.

**Па вертыкалях:** 1. Начальнік канцылярыі вялікага князя і рады, хавальнік вялікай дзяржаўнай пячаткі. 2. Зямельнае ўладанне, якое пераходзіла ў спадчыну ад бацькі да сына. 3. Грашовая адзінка ў ВКЛ. У XVII-XVIII ст. была роўная 6-9 злотым. 5. Начальнік войска ў ВКЛ. 10. Прывілеяванае саслоўе ВКЛ. 12. Аб'яднанне гарадскіх рамеснікаў адной ці блізкіх прафесій з мэтай наладжвання збыту сваёй прадукцыі і абароны ад умяшальніцтва ў гарадскія справы феадалаў.

*Падрыхтавала Наташа.*

*Адказы на крыжаванку, змешчаную ў №16.*

1. Нарач. 2. Крэва. 3. Вугор. 4. Вілія. 5. Мядзел. 6. Танк. 7. Маладзечна. 8. Валожын. 9. Альхоўка. 10. Мінск. 11. Смаргонь. 12. Ашмяны. 13. Багдановіч. 14. Залессе. 15. Бярэзіна. 16. Вілейка. 17. Астравец. 18. Любань.

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

# На чужы каравай

Была яшчэ Маладзечанская вобласць. На розныя нарады, пасяджэнні выклікалі з райцэнтраў рознага рангу чыноўнікаў.

Група загадчыкаў аддзела райвыканкома з Мядзела пасля праціранння штаноў і шліфавання мазгоў рушыла падмацавацца ў рэстаран. Заказ для іх зрабіў загадчык райфа (раённага фінансавага аддзела). А калі трэба было разлічвацца, дык з сумам паведаміў, што грошы засталіся ў кішэні пінжака, які не апрануў.

– Сябры, у даўгу не застануся.

Паверылі чалавеку. У другі, трэці раз той самы фінансіст рабіў заказ, але не меў, чым заплаціць за сябе: не ўзяў грошы, потым верне.

Згаварыліся сябрукі правучыць нахабніка. Пасля чарговай нарады ў Маладзечне зноў завіталі ў рэстаран. Зноў загадчык райфа схапіў меню і прадыктаваў афіцыянтцы заказ. Усе згаджаліся з яго густам і з нормай спіртнога.

Калі застолле падыходзіла да канца, сябрукі па розных прычынах пачалі выходзіць з–за стала, зноў вяртацца, а потым падаліся да машын і ад'ехалі на Мядзел.

Фінансіст чакаў. Афіцыянтка папрасіла заплаціць за вячэру.

– Пачакайце хвілінку, прыйдуць сябры, – казаў збянтэжаны чыноўнік, хаця зразумеў, што ўліп у непрыемную гісторыю.

Заплаціць за ўсю кампанію грошай не было. Прапанаваў пашпарт. Афіцыянтка адмовілася яго ўзяць і чакаць наступнага дня ў абмен на грошы. Фінансіст не асмеліўся прапанаваць партбілет. Афіцыянтка не адыходзіла ад стала. Наспяваў скандал. Тады загадчык райфа ўказаў на свой новы шыкоўны кажух (модна іх было насіць пасля вайны). Афіцыянтка згадзілася і сказала, што, калі раніцой наступнага дня не прывязе грошы, той кажух (скуранка) апынецца на рынку.

80 кіламетраў ехаў няўдачнік у адным пінжаку ў Мядзел. На наступны дзень шафёр адвёз грошы і прывёз кажух.

Больш ніколі не імкнуўся далучыцца да кампаніі саслужыўцаў. Тыя не шкадавалі.

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

ХАВАЙСЯ У БУЛЬБУ

***Нагадваем, што ў гэтай рубрыцы рэдакцыя мяркуе змяшчаць гісторыі пра анекдатычныя выпадкі з жыцця. Дасылайце іх у рэдакцыю. Аўтар лепшай гісторыі будзе мець магчымасць змясціць у «РГ» 3 прыватныя аб''явы – па–за чаргой і бясплатна. І атрымае навышаны ганарар. Дасылайце свае апавяды, адзначайце тыя, што найбольш спадабаліся.***

# Паабяцаў...

Адзін хлопец вёз вялікую шумную кампанію. Побач з ім сядзеў пасажыр амаль у "ніякім" стане і вельмі назаляў вадзіцелю. Высаджваць п'янага сябра той не хацеў і вырашыў пакласці яго ў багажнік.

Вось так і ехалі, пакуль на дарозе не з'явіўся работнік ДАІ і не махнуў ім жазлом. Машына спынілася, інспектар убачыў, што пасажыраў там было як селядцоў у бочцы, а дакладней, дванаццаць чалавек.

Даішнік патрабаваў плаціць штраф, вадзіцель прасіў прабачэння, але чалавек у форме нічога не хацеў чуць, толькі пажартаваў наконт таго, што, каб "кліентаў" было трынаццаць (чортаў тузін), дык ён бы з імі не звязваўся.

Вось калі спатрэбіўся трынаццаты пасажыр, што адпачываў у багажніку. Здзіўленаму работніку ДАІ нічога не заставалася, як адпусціць іх.

*Анжаліка АРАБІНКА.*

ГАРАСКОП 26 КРАСАВІКА–2 ТРАЎНЯ

**АВЕН (21.03–20.04)**
Добрыя дні 27, 28, важныя 30, 1. На гэтым тыдні задаволіш усе свае жаданні адносна новых партнёрскіх сувязяў.

**ЦЯЛЕЦ (21.04–21.05)**
Важны дзень 28. Цябе чакае вестка пра хуткую камандзіроўку.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05–21.06)**
Кепскія дні 29, 30. У фінансавым плане гэты тыдзень будзе не надта ўдалы.

**РАК (22.06–23.07)**
Кепскія дні 26, 27, важны 30. Пазбягай канфліктаў з партнёрамі.

**ЛЕЎ (24.07–23.08)**
Поспех чакае тых, хто імкнецца да палітычнай дзейнасці.

**ДЗЕВА (24.08–23.09)**
Добры дзень 26. Сваёй мэты дасягнеш, але рознымі сродкамі і шляхамі.

**ШАЛІ (24.09–23.10)**
Добрыя дні 28–30. З'явяцца магчымасці для пашырэння твайго бізнесу.

**СКАРПІЁН (24.10–22.11)**
Цябе чакае новы аўтамабіль або купля кватэры. Заробіш дастатковую колькасць грошай.

**СТРАЛЕЦ (23.11–21.12)**
Добрыя дні 1, 2. Рызыкоўная здзелка прынясе вялікую карысць.

**КАЗЯРОГ (22.12–20.01)**
Кепскі дзень 29. Не адмаўляйся ад дапамогі калег і сяброў.

**ВАДАЛЕЙ (21.01–19.02)**
Добры дзень 29, важны 30. Ты выйграеш ад знаёмства з уплывовай асобай.

**РЫБЫ (20.02–20.03)**
Добры дзень 30. Фінансавыя праблемы вырашыш на гэтым тыдні.

КАЛЯНДАР САДАВОДА–АГАРОДНІКА

# Май

## *Работы ў гародзе і кветніку*

⧗ У першыя дні мая працягвайце высяваць холадаўстойлівыя расліны гародніны: усе віды і сарты капусты, рэпу, рэдзьку, радыску, моркву, пятрушку, кроп, салату, часнок, цыбулю, гарох, бабы.

⧗ На адкрытым, сонечным, сухім месцы ў пачатку мая высаджвайце прарошчаныя клубні ранняй бульбы. Пры падрыхтоўцы ўчастка на 1 кв. м унясіце 1–2 вядры арганічнага ўгнаення, літровы слоік попелу, а на бедных глебах дадайце яшчэ мінеральныя ўгнаенні.

Адлегласць пры пасадцы клубняў –25–30 см у радзе і 50–55 см між радамі. Глыбіня – 6–10 см. У лункі пры пасадцы добра падсыпаць перагной, торф або кампост.

Бульбу для зімовага захоўвання можна саджаць на працягу ўсяго мая. Сярэднія і позція сарты высаджвайце на адлегласці 60–65 см між радамі.

⧗ Калі глеба на глыбіні 12 см прагрэецца да 15°, высявайце ў адкрыты грунт насенне агуркоў (з 20–25 мая – сухія, а з 1 чэрвеня – прарошчаныя). Пасля з'яўлення сапраўднага ліста ўсходы прарэдзьце. Адлегласць паміж раслінамі – 35 см, паміж радамі – 50 см. Пад тыя расліны, што пакінулі, падсыпце 2–3 см торфу, пілавіння або проста акучце іх вільготнай зямлёй.

Пасевы рэгулярна рыхліце на глыбіню не больш за 2 см. Палівайце часта, але не многа. Падкормлівайце на працягу ўсяго вегетацыйнага перыяду з інтэрвалам 12–14 дзён, прычым, рабіце гэта бліжэй да вечара.

У гэтыя ж тэрміны высявайце ў адкрыты грунт насенне кабачкоў, гарбуза.

⧗ У другой дэкадзе мая расаду таматаў можна высадзіць у плёначныя ўкрыцці, а ў канцы мая– пачатку чэрвеня – у адкрыты грунт. Адлегласць – 40–50 см між кустамі і 60–70 см між радамі. Палівайце шчодра, але не часта: да цвіцення – раз у 5–6 дзён, пазней – часцей і ў залежнасці ад надвор'я і тэмпературы паветра. Тэмпература вады для паліву павінна быць на 2–3° вышэй за тэмпературу паветра.

⧗ У канцы мая–пачатку чэрвеня высадзіце ў грунт, але пакуль пад плёнку, расаду кабачкоў, гарбуза. Для раслін з 2–3 сапраўднымі лістамі выберыце адкрытае, сонечнае, сухое месца, а яшчэ лепш, невялікую кучу кампосту. Спалучэнне ўрадлівай зямлі, сонечнага цяпла і святла спрыяльна ўздзейнічае на развіццё гарбузовых раслін.

⧗ Патрэба ў пажыўных рэчывах залежыць ад ступені ўрадлівасці глебы і віду культур гародніны. Так, ліставой, зяленіўнай гародніне патрабуецца больш азоту; караняплодам – калію, карысна ўносіць пад іх попел; таматам – дастатковую колькасць фосфару. Вельмі важна забяспечыць расліны неабходнымі элементамі харчавання ў самы ранні перыяд іх развіцця. Таму для атрымання высокіх ураджаеў бульбы і гародніны асноўную колькасць мінеральных угнаенняў разам з арганічнымі ўносяць да сяўбы або пасадкі.

⧗ У пачатку мая працягвайце высяваць у грунт, а лепей у парнік насенне аднагалетніх астраў і іншых летнікаў. Для паскарэння ўсходаў пасевы накрыйце празрыстай плёнкай.

⧗ Высаджвайце клубнецыбулькі гладыёлусаў. Для пасадкі выбірайце добра асветленыя ўчасткі, закрытыя ад ветру. Гладыёлусы не церпяць цяжкіх глеб з блізкім заляганнем грунтавых вод. Буйныя цыбуліны высаджвайце на глыбіню да 12 см на лёгкіх глебах і да 8–10 см на цяжкіх. Адлегласць паміж раслінамі – 10 см, між радамі – да 40–45 см. Дробныя цыбулінкі саджайце часцей – праз 5–6 см.

⧗ Мнагалетнія кветкавыя і дэкаратыўныя расліны ўгнойце, падрыхліце, пры сухім надвор'і палівайце. На півонях з вялікай колькасцю бутонаў устанавіце падпоркі, выдаліце на сцяблінах бакавыя бутоны, захоўваючы адзін цэнтральны.

⧗ Вялікую небяспеку для культур гародніны нясуць позція веснавыя замаразкі (да 7–12 чэрвеня).

Для аховы ад холаду усходы бульбы акучце, а ўсходы або расаду агуркоў, таматаў, кабачкоў накрыйце каўпакамі з газеты, шчыльнай паперы ці выкарыстайце мешкавіну, рагожу.

ФУТБОЛ

# Беразінскае–99

БЕРАЗІНСКАЕ. Прайшоў аргкамітэт традыцыйнага турніру па міні–футболе.

Сёлета прыедуць удзельнікі чэмпіянату свету (у складзе сталічнага «Атланта»), з Украіны дабіраюцца ўдзельнікі іхняга чэмпіянату. Значна падвялічаны прызавы фонд, стартавыя ўзносы каманд.

Неадназначна ацэнены прапанаваны сцяг турніру, таму жадаючыя могуць падаваць свае заяўкі, эскізы – да 14 мая, калі адбудуцца прэзентацыя і жараб''ёўка.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

КОНКУРС

# "Таталізатар": вынікі 2–га раунда

На гэты раз мы атрымалі 8 купонаў з вашымі прагнозамі. Вынікі кожнай з сустрэч адгаданыя толькі па адным разе, прычым рознымі ўдзельнікамі. Маральным пераможцам назавем **Алега Гаруновіча** з Маладзечна. Ён дакладна вызначыў лік сустрэчы ў Гомелі і мінімальна памыліўся ў двух астатніх прагнозах: "дадаў" лішні гол "Дняпру-Трансмашу" і "адняў" адну выніковую атаку ў БАТЭ.

Як відаць, ізноў ніхто не здолеў дакладна спрагназаваць зыходы ўсіх трох матчаў, што мы прапанавалі. Напэўна, такое будзе здарацца часта, а, значыць, узрастае вартасць прыза, які "РГ" прадаставіць абсалютнаму пераможцу нейкага з раўндаў.

# Трэці раунд набірае ход

Як і ў мінулым нумары, прапануем купон з матчамі 1/4 Кубка Беларусі. Апошні дзень адпраўкі - 28 красавіка.

| № | Матчы (29 красавіка) | Лік-прагноз |
|---|---|---|
| 1. | БАТЭ – Днепр–Трансмаш | |
| 2. | Гомель – Славія | |
| 3. | Маладзечна – Тарпеда–МАЗ | |

Прозвішча ____________ Адрас ____________
Імя ____________ Тэлефон ____________

Анонсы даюцца па матчах чэмпіянатаў краіны. А кубкавыя сустрэчы, як вядома, заўсёды вызначаюцца непрадказальнасцю. Усё тут залежыць ад стану сапернікаў на адзін канкрэтны вечар. Фаварыты часцяком праіграюць ў такіх паядынках. Ідзе барацьба і за пуцёўку на еўратурніры. Уладальнік Кубка Беларусі будзе выступаць сёлета ў Кубку УЕФА (Кубак Кубкаў з гэтага сезона скасаваны).

1. +1=0-1 1-1. 0:1 (Маг.), 1:0 (Бар.). Будзе вельмі цікавая і прынцыповая сустрэча лідэраў нашага футбола. У небагатую гісторыю ўзаемаадносінаў уваходзіць матч на фінішы мінулага сезона, калі барысаўчане дома выйгралі і атрымалі сярэбраныя медалі. Удзел у еўракубках абодва сапернікі сабе ўжо забяспечылі.

2.+0=0-2 1-5. 0:3 (Маз.), 1:2 (Гом.). Удзельнікі гэтага палескага дэрбі якраз і вядуць барацьбу за еўрапуцёўку. Гамяльчане ў землякоў пакуль не выйгравалі. Абедзве каманды добра стартавалі ў чэмпіянаце.

3.+2=8-4 12-12. 1:1 (Мн.), 0:1 (Мал.). Нічыя - найбольш часты зыход сустрэч. Вось каб і цяпер так! Хаця б у асноўны час. Маладзечанцы ў 1/8 бліскуча вырвалі перамогу над "Шахцёрам". Але менавіта ў складзе аўтазаводцаў цяпер і наш былы галоўны трэнер **Леанід Кучук**, і лепшы ў той сустрэчы **Мікалай Абрамовіч**, і вельмі перспектыўныя **Уладзімір Карыцька** ды **Павел Міронччык**.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

РАСПАЎСЮДЖАНЫЯ ЗАХВОРВАННІ І СПЕЦЫФІЧНЫЯ СПОСАБЫ ІХ ЛЯЧЭННЯ

# Аблысенне

Часта масіруйце скуру галавы сумессю аліўкавага і размарынавага алеяў у роўных частках. Галаву пажадана мыць у дажджавой вадзе, шампунем з экстрактам размарыну. Часам добра дапамагаюць сонечныя промні (натуральныя ці штучныя). Курс сонечнага апраменьвання (ультрафіялетавымі прамянямі) можна прайсці ў большасці клінік.

Не насіце галаўныя ўборы. Пачынайце з лета і паступова загартоўвайце галаву, прывучвайце яе да ўздзеяння ветру, сонца і дажджу.

# Разліццё жоўці

Выпіце маленькі кубачак кавы (дадайце туды лімонны сок і дробку звычайнай солі – і нічога не ешце на працягу сутак. На працягу наступных сутак ужывайце ў ежу толькі сырыя яблыкі. Кава ў гэтым выпадку павінна быць натуральная – без цыкорыю і г. д.; сурагаты тут карысці не прынясуць.

Гомеапатычны сродак – настойка барбарысу (Berberis vulgaris): 5 кропляў на сталовую лыжку вады – прымаць праз кожныя 4 гадзіны.

# Укусы і ўджаленні насякомых

Боль і зуд у месцы ўкусу можна суняць, калі змачыць і націраць яго сырой цыбуляй ці ўласнай слінай.

*Канстанцыя МЭЛАР.*

*Вышэйшая ліга*

# 17 хвілін раўнавагі на табло

**Маладзечна-БАТЭ 0:3**

17.04, 4300 гледачоў, галоўны арбітр Алег Чыкун (Стоўбцы)

7 Зрыбненка (14 Мурашка, 62); 11 Цыбулька; 10 Даніленка (15 Яўсеенка, 62); 8 Шамшорык (12 Катаргін, 83); 9 Новаш; 6 Жукоўскі; 4 С. Кабельскі (кап.); 2 Лебедзеў; 5 Д. Кабельскі; 3 Вайтовіч; 1 Васілеўскі

**Запасныя:** Сядун, Пясецкі, Дзіковіч.

**Галы:** Баранаў (17), Акуліч (53), Ганчарык (71).

**Папярэджанні** ў складзе "Маладзечна": Лебедзеў, Цыбулька.

**Лепшы** ў складзе "Маладзечна": Васілеўскі.

На матч адкрыцця сезона ў Маладзечне прыйшлі больш за чатыры тысячы гледачоў. Аднак пасля трэцяга прапушчанага мяча балельшчыкі сталі дружна разыходзіцца.

Перад матчам прысутныя хвілінай маўчання ўшанавалі памяць **Генадзя Карпенкі**. Потым было афіцыйнае адкрыццё. Слова на дарогу футбалістам сказаў старшыня рэгіянальнай федэрацыі футбола **Альберт Дабранскі**. А старшыня гарвыканкома **Станіслаў Татарыновіч** спазніўся ўсяго на некалькі хвілін. Капітаны каманд **Сяргей Кабельскі** і **Вадзім Скрыпчанка** традыцыйна ўзнялі сцяг. Былі прызы – ад акцыянернага таварыства "Белмастацкераміка", за першы гол і лепшым гульцам у складах абодвух каманд (**Аляксандр Васілеўскі** і **Аляксандр Ермаковіч**).

Адразу кінулася ў вочы нязгулянасць гаспадароў, якія рабілі шмат памылак. Разам з тым, маладзечанцы імкнуліся дзейнічаць самаааддана, не раз і не два сцелячыся па полі ў падкатах. Праўда, пасля аднаго з такіх момантаў і быў прапушчаны першы гол. Мяч ад **Аляксандра Даніленкі** адскочыў да лініі нашай штрафной, а абаронцы ўпусцілі ў яе **Аляксандра Баранава**. Удар барысаўчаніна ў далёкі вугал быў неадхільным.

Наш галкіпер на працягу ўсёй сустрэчы шмат разоў выратоўваў каманду, калі партнёры дазвалялі расстрэльваць яго практычна ва ўпор. У другім тайме галы былі прапушчаныя пасля таго, як мяч, чамусьці нікім не перахоплены, прылятаў (ці нават проста марудна прыкатваўся) з левага флангу абароны ў цэнтр штрафной. Тут больш увішнымі аказаліся **Дзмітрый Акуліч** (ізноў маладзечанцам забівае былы іхні футбаліст) і **Арцём Ганчарык**. У варатара шанцаў не было.

На палову поля гасцей гульня завітвала рэдка. Найбольш запомнілася атака недзе на 40-й хвіліне. Гаспадары перадавалі мяч веерам справа налева, урэшце метраў з дванаццаці прабіў **Тарас Шамшорык**, але абаронца падставіў нагу, і ў выніку атрымаўся вуглавы. Пасля яго падачы прыгожа скокнуў (ён яшчэ так двойчы гуляў на публіку) галкіпер БАТЭ **Васіль Хамутоўскі**, але выпусціў мяч, і той прыляцеў да **Дзмітрыя Кабельскага**. Нашаму футбалісту прыйшлося злёту падкручваць "плямістага" пад перакладзіну, бо між ім і варотамі было з дзесятак чалавек, сваіх і чужых. Удар прыйшоўся і міма варотаў, і вышэй за іх.

Нічога звышнечаканага не адбылося. Ад гэтага складу футбалістаў "Маладзечна" станоўчых вынікаў можна будзе чакаць толькі праз некалькі месяцаў. Не гулялі **Дзмітрый Молаш**, **Паўлы Плют** і **Бычкоўскі**, выкліканыя ў юнацкую зборную краіны да 18 гадоў. Ды і барысаўчане на сённяшні дзень, бадай, мацнейшая каманда на Беларусі.

Невялікі аналіз матча ў інтэрв'ю-знаёмстве з новым выконваючым абавязкі галоўнага трэнера **Барысам Лазарчыкам**.

- Калі ласка, крыху пра сябе. І якім чынам вы атрымалі прапанову з "Маладзечна"?

- 51 год, жанаты, маю сына, жыву пад Мінскам у Міханавічах. Выхаванец дынамаўскай школы, пагуляў на Урале, у Сярэдняй Азіі, на Далёкім Усходзе. Завяршаў кар'еру ў канцы семідзесятых, калі выступаў за жодзінскае "Тарпеда". Меў дыплом Хабараўскага інфізкульта, пачаў працаваць дзіцячым трэнерам, нейкі час нават судзіў. За плячыма восем гадоў у "Змене", чатыры - у "Атацы" і яшчэ тры - у "Алімпіі". А прапанова паступіла ад **Леаніда Стагановіча**, які цяпер дапамагае маладзечанскаму клубу. Ён ведае мяне па "Атацы", дзе быў прэзідэнтам.

- Наколькі разумею, прыйшоўшыя з "Алімпіі" Дзмітрый Молаш, Паўлы Плют і **Яўсеенка**, **Уладзімір Мурашка** - гэта вашыя выхаванцы. Назавіце іншых, больш вядомых па беларускай вышэйшай лізе.

- **Сяргей Федаровіч**, які гуляў за "Маладзечна", а цяпер у "Гомелі". **Аляксандр Багайчук** – ён цяпер у вільнюскім "Жальгірысе". Спрычыніўся да падрыхтоўкі галкіпера **Віктара Ігнацьева** ("Нафтан-Дэвон") і **Уладзіміра Нявінскага**, якога мы бачылі на полі ў складзе БАТЭ.

- Давайце пагутарым пра гульню. Прапушчаныя галы былі вынікам не столькі выдатных камбінацый барысаўчанаў, колькі грубейшых памылак маладзечанцаў у абароне?

- Так, прагледзім відэазапіс, паспрабуем зразумець прычыны другога і трэцяга кур'ёзных галоў. Крыўдна прайграваць з-за сваіх памылак. Упэўнена адстаяў Аляксандр Васілеўскі. Добры набытак у складзе - дасведчаны **Сяргей Вайтовіч**. Надзейна гуляў Дзмітрый Кабельскі. Не надта актыўным наперадзе быў **Андрэй Цыбулька**.

- Задача на сезон - застацца ў вышэйшай лізе? Дарэчы, бліжэйшая гульня чакаецца вельмі цяжкай, з "параненым зверам"-"Шахцёрам" на выездзе.

- Так, задача зразумелая. А рыхтавацца будзем да кожнай сустрэчы, не беручы пад увагу саперніка. Трэба самім выходзіць на патрэбны ўзровень гатоўнасці. Фізічнай, ды і тэхніка-тактычнай таксама. Будзем працягваць і камплектаванне каманды.

- Удачы вам.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*



*Трэнеру цяжэй за ўсіх. Пажадаем яму вытрымкі. І каб далі Барысу Лазарчыку магчымасць заявіць пра сябе, правесці ў жыццё напрацоўкі.*



*Тройчы засмуцілі барысаўчане варатара Аляксандра Васілеўскага. Хаця адстаяў ён добра.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

## Вынікі першага тура

| | |
|---|---|
| **Лакаматыў-96-Днепр Трансмаш** | **1:1** |
| Тарпеда-МАЗ-Шахцёр | 4:1 |
| Маладзечна-БАТЭ | 0:3 |
| Нафтан-Дэвон-Славія | 0:3 |
| Свіслач-Кроўля-Белшына | 0:1 |
| **Гомель-Дынама (Бр)** | **3:1** |
| Ліда-Тарпеда-Кадзіна | 3:1 |
| Дынама (Мн)-Нёман-Белкард | 1:1 |

*Тоўстым шрыфтам пазначаныя вынікі ў залік нашага "Таталізатара" (конкурсы – на 4–й стар.).*

## Дазаяўка ФК «Маладзечна»

У камандзе – новыя гульцы. Гэта нападаючыя **Уладзімір Мурашка і Павел Яўсеенка** 1980 г. н. з мінскай "Алімпіі", абаронца **Сяргей Вайтовіч** 1971 г. н. (у мінулым сезоне гуляў за "Тарпеда–Кадзіна"), паўабаронца **Аляксей Катаргін** 1976 г. н. Апошні ўжо з'яўляўся ў складзе каманды ў час міжсезоння, але тады ад яго паслуг адмовіліся. Цяпер футбалісту далі яшчэ адзін шанц. Нагадаю, раней ён гуляў за віцебскі "Лакаматыў–2".

Усе яны падпісалі кантракты на адзін год.

*Юлія ВАНСЛАЎ, Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА

| КАМАНДА | АЧКІ |
|---|---|
| 1. «БАТЭ» (Барысаў) | 6 |
| 2. «Славія» (Мазыр) | 6 |
| 3. ФК «Гомель» | 6 |
| 4. «ДНЕПР-Трансмаш» (Магілёў) | 4 |
| 5. ФК «Ліда» | 4 |
| 6. «Белшына» (Бабруйск) | 4 |
| 7. «Дынама» (Мінск) | 4 |
| 8. «Тарпеда»–МАЗ (Мінск) | 3 |
| 9. «Дынама» (Брэст) | 3 |
| 10. «Лакаматыў–96» (Віцебск) | 2 |
| 11. «Нафтан-Дэвон» (Наваполацк) | 1 |
| 12. «Нёман–Белкард» Гродна | 1 |
| 13. «Тарпеда–Кадзіна» (Магілёў) | 0 |
| 14. Свіслач–Кроўля (Асіповічы) | 0 |
| 15. «Шахцёр» (Салігорск) | 0 |
| 16 ФК «МАЛАДЗЕЧНА» | 0 |

## АНОНС

**Маладзечна-Тарпеда-МАЗ (Мінск)**

1/4 Кубка краіны. 29 красавіка. Пачатак - 16.00 або 17.00. Некаторыя падрабязнасці ў "таталізатарскім" анонсе.

## Перад матчам

Ужо за гадзіну да пачатку матча на стадыён пацягнуліся аматары футбола, каб падтрымаць сваю каманду. Былі і фанаты нашага саперніка – БАТЭ. Увогуле, у гэтай каманды ёсць свой фан–клуб, і група найбольш актыўных суправаджае футбалістаў. Спачатку на стадыёне было чалавек 20, на працягу матча каля сарака барысаўскіх балельшчыкаў падтрымлівалі сваіх. У іх была свая атрыбутыка – шалікі, сцягі. Да гэтага балельшчыкам маладзечанскай каманды яшчэ далёка.

Размаўляю з "Нязнайкам", галоўным фанатам БАТЭ.

– Які прагноз на матч?

– Вядома, БАТЭ пераможа. Лік будзе 6:1.

– Хто, на вашу думку, вызначыцца ў складзе БАТЭ?

– Мы думаем, што Кутузаў – двойчы, таксама Глеб, Лісоўскі.

– А які лёс у каманд–супернікаў у гэтым чэмпіянаце?

– БАТЭ абавязкова пераможа, а ваша "Маладзечна" не зможа застацца ў вышэйшай лізе.

Нашы балельшчыкі былі настроеныя больш аптымістычна.

Андрэй Конан, 15 год, студэнт МПТ, пастаянны балельшчык:

– Сёння наш клуб, на жаль, саступіць. Мой прагноз – 0:1. Але потым у чэмпіянаце нашы павінны прыбавіць у якасці гульні і не пакінуць вышэйшую лігу, але будзе вельмі цяжкі сезон.

Анатоль Шатраўскі, 50 год, працуе ў рэмонтным дэпо.

– Я лічу, што матч завершыцца з лікам 1:1, а наша каманда застанецца ў вышэйшай лізе.

Анатоль Шут, 50 год, пастаянны балельшчык:

– На жаль, нашы прайграюць, хаця будзем спадзявацца, што можам зачапіцца хаця б за нічыю. З розыгрышу Кубка нашы "выскачаць" ужо пасля чвэрцьфіналу. Увогуле, у гэтым сезоне ў нас слабая падрыхтоўка, каманда вельмі маладая і неспрактыкаваная, ды яшчэ змена трэнера – усё гэта прыводзіць да думкі, што яна не застанецца ў лізе мацнейшых.

Кірыл Міханевіч, Сяргей Зелянко, Саша Гірдзюк – усім па 14 год, вучні СШ №4:

– Мы з васьмі год ходзім на матчы. Нашым футбалістам трэба згуртавацца, і, нягледзячы на ўсе цяжкасці, яны павінны застацца ў вышэйшай лізе. Мы думаем, што лік будзе 1:1 ці 2:1 на карысць "Маладзечна". БАТЭ зойме месца з першага па трэцяе, а нашы футбалісты будуць у дзесятцы.

## У перапынку

Сяргей Ярук, вучань САШМ, пастаянны балельшчык:

– Слабая гульня, асабліва ў абароне. Лік мог быць і большы, але выратоўваў варатар. Я думаю, лік будзе 1:4, але нашы павінны застацца ў вышэйшай лізе, а вось у Кубку амаль няма шанцаў.

Маша Акульская, вучаніца СШ №2:

– Гулялі добра, але ўсё ж такі прапусцілі. У другім тайме павінны прыбавіць, лік будзе 2:1 на нашу карысць. Калі будзе наладжаны добры трэніровачны працэс, то нашы застануцца ў вышэйшай лізе.

Віталь, ахоўнік парадку на стадыёне:

– Лік па гульні: вельмі непераканаўчы футбол паказвае наша каманда, будзе 2:0. Мяркую, што маладзечанцы ўсё ж такі пакінуць вышэйшую лігу, а ў Кубку ў нашых ёсць шанцы дайсці да паўфіналу.

Уладзімір Дудко, 60 год, пенсіянер, былы шафёр:

– Па гульні БАТЭ выглядае мацней, але моманты былі і ў нас, паглядзім, як БАТЭ згуляе супраць ветру. Лік будзе 2:1 на карысць "Маладзечна". Наша каманда павінна застацца ў класе мацнейшых. Ды і як можа быць інакш, калі ў нас ёсць такі добры стадыён, добрыя традыцыі і верныя балельшчыкі!

Лена і Каця, студэнткі:

– На футбол ходзім рэдка. Падабаецца гэтая атмасфера, вельмі перажываем за нашу каманду і будзем актыўна падтрымліваць у другім тайме.

## Другі тайм

Калі футбалісты БАТЭ забілі трэці гол, трыбуны пачалі пусцець. Тыя, што засталіся, актыўна падтрымлівалі сваю каманду і вельмі хацелі, каб быў забіты хаця б гол прэстыжу. Не атрымалася, але нельга не зазначыць, што і ў "Маладзечна" ёсць свае фанаты.

## Пасля матча

"Нязнайка":

– Гульнёй БАТЭ вельмі задаволены, маглі б забіць яшчэ больш, але і тры галы – гэта нармальна. А ў "Маладзечна" гуляў толькі варатар, астатнія стаялі. Калі ацэньваць аб'ектыўна, то месца для вашай каманды – у першай лізе. Там, калі ўдасца захаваць каманду, яна набудзе досвед, і хто ведае, як будзе далей.

К. Міханевіч, С. Зелянко, А. Гірдзюк (асіплымі галасамі):

– Лепш нашы футбалісты згуляць і не маглі, вельмі маладая каманда, галы прапускалі з–за незгулянасці, у нашай камандзе вылучаўся варатар. Ён быў лепшы. Увогуле, усё яшчэ наперадзе.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

## Галоўныя трэнеры каманд

**Барыс Лазарчык** ("Маладзечна"):

– У каманды шмат праблем, таму добрую гульню паказаць пакуль немагчыма. Але мы будзем працаваць, каб у хуткім часе ўсё змянілася.

**Юрый Пунтус** ("БАТЭ"):

– Вынікам я задаволены, а гульнёй сваіх футбалістаў – не. Мы павінны былі забіць большую колькасць мячоў. У сваёй камандзе вызначу Ермаковіча. Ён справядліва атрымаў сёння прыз. Наконт сапернікаў скажу, што гэта малады калектыў. Я жадаю ім хутчэй набрацца досведу.

## І крыху яшчэ

**Канстанцін Харламаў** на пытанне пра сустрэчу адказаў з усмешкай:

– Каб у атацы гуляў Уладзімір Галубко, карысці было б больш.

На матчы прысутнічаў чэмпіён свету ў складзе зборнай Беларусі па біятлоне **Аляксей Айдараў**. Праўда, прыехаў ён толькі на другі тайм. Чаму спартсмен апынуўся ў Маладзечне? Справа ў тым, што ў Аляксея цяпер адпачынак, і ён вырашыў падтрымаць сваіх сяброў з каманды "БАТЭ". Пасля гульні ён не знайшоў часу, каб падзяліцца ўражаннямі пра яе. Але для аматараў спорту рэгіёна вядомы біятланіст пакінуў аўтограф.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

КЛУБ СПАРТЫЎНЫХ ФАНАТАЎ

# Футбалісты чакаюць падтрымкі

Фанаты з вуліцы Маладзёжнай пішуць:

– У клубе шмат маладых перспектыўных футбалістаў, якія жадаюць гуляць. Вяртанне **Аляксандра Лебедзева** абнадзеіла нас. Мы верым у ФК "Маладзечна" і лічым, што каманда павінна ўвайсці ў дзесятку мацнейшых. Патрэбная падтрымка балельшчыкаў.

Маладзечанец **Аляксандр** робіць несуцяшальны прагноз:

– Каманда выйграе 1:0 у "Свіслач–Кроўлі" і "зробіць" нічыю ў матчы з "Нафтанам–Дэвонам". У астатніх сустрэчах будуць паражэнні.

**Алег Гулецкі**, "выязны" фанат маладзечанскага футбола, мяркуе:

– Клуб расфарміруецца ў сярэдзіне чэмпіянату. Будзе "дуць" усім. Шкада, што пайшоў з жыцця Генадзь **Карпенка**. Гэта быў адзіны чалавек, які па–сапраўдным цікавіўся футболам, "хварэў" за яго. Цяпер такіх людзей няма.

У кожнага ёсць свой пункт погляду. Пішыце, і вашыя меркаванні мы змесцім на старонках газеты.

*Юлія ВАНСЛАЎ, галоўны фанат.*

**P. S.** "Клуб Спартыўных Фанатаў" распачынае акцыю "Мы – з табой, ФК "Маладзечна"". Вы дапаможаце камандзе, калі напішаце пажаданні вашым любімым футбалістам у яе складзе. Для гэтага ўкладзіце канверт са сваімі словамі падтрымкі (з імем адрасата) у другі з наступным адрасам: "Рэгіянальная газета" (Клуб Спартыўных Фанатаў), 68А, Вялікі Гасцінец, 222310 Маладзечна.

ФУТБОЛ, ДРУГАЯ ЛІГА

# Забудуем азярцы трактарамі

Чэмпіянат стартуе 25 красавіка. Каманды разбітыя на дзве падгрупы. "А" (13 калектываў) і "В" (12). Нашы землякі выступяць сярод "чортавага тузіна". Вось спіс удзельнікаў падгрупы. "Трактар", "Змена"-БАТЭ, РВАР, АФВіС-РШВСМ (усе - Мінск), "Верас" (Нясвіж), "Лакаматыў" (Віцебск), "Забудова" (Чысць), "Смаргонь", "Днепр"-2 (Магілёў), "Азярцы" (Глыбокае), "Будаўнік" (Старыя Дарогі), "Свіслач-Кроўля"-2 (Асіповічы), "Беразіна" (Бабруйск). З мінулагодняга складу не будзе сталічных "Зоркі"-ВА-БДУ (выйшла ў першую лігу), "Атакі-Спорта" і "Рэала", а таксама івацэвіцкай каманды, якія зняліся са спаборніцтваў. У іншую падгрупу перайшлі стаўбчане. Навічкі - нованутвораныя "Азярцы" і "Беразіна" ды "Будаўнік" са "Свіслач-Кроўляй" з іншай падгрупы.

У першым туры, у бліжэйшую нядзелю, будзе адкрыты сезон у Чысці матчам са старадарожцамі, якія тры першыя гады нацыянальных чэмпіянатаў правялі ў мацнейшай лізе. Пачатак у 16.00. Рыхтуецца святочная праграма. Маладзечанскіх балельшчыкаў у 15.00 будзе чакаць аўтобус ля гасцініцы. Потым будзе матч у Магілёве 2 траўня. Смаргонцы стартуюць на выездзе з АФВіС-РШВСМ. Дарэчы, другі тур яны прапусцяць з-за няцотнай колькасці ўдзельнікаў, а дома адкрыюць сезон 9 траўня супраць тых жа старадарожцаў.

Чысцінцы дамовіліся, што "Металург" з Беразінскага (абласны чэмпіянат) будзе іх фарм-клубам. Згулялі з ім кантрольную сустрэчу. Лік 2:3. Забілі **Віталь Макрыцкі** і **Вячаслаў Ваўчок**. На турнір у Стоўбцы не паехалі.

Смаргонцы цалкам задаволеныя зборам у Жодзіне. Правялі два матчы. Супраць мясцовых "Тарпеда" (першая ліга) 2:2 і "Аўтазаводца" (абласны чэмпіянат) 1:0. Вызначаліся **Сяргей Карабінскі**, **Віталь Відук** і навічок з Глыбокага **Уладзімір Апяцёнак**.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# Рыхтуемся да свайго марафону

Маладзечанскія гарадскі і раённы клубы аматараў бегу "Маладосць" і "Колас" нядаўна аб'ядналіся, і цяпер каля сямідзесяці чалавек выступаюць пад шыльдай "Рэгіён". Старшыня **Аляксандр Кавалёў** гаворыць, што так працаваць будзе прасцей, ды і ў рэспубліканскім заліку сярод клубаў можна разлічваць на самыя высокія месцы.

У Асіповічах 10 красавіка праходзіў традыцыйны марафон, які, да таго ж, меў статус першынства рэспублікі сярод ветэранаў. На 42 км 195 м выйшлі 80 мужчын і 12 жанчын. Была і "дзесятка", на якой узялі старт каля двухсот чалавек. З "Рэгіёна" ездзілі трынаццаць спартсменаў. У прызёры трапілі трое, прычым сталі пераможцамі.

**Галіна Кавалёва** стала абсалютна лепшай сярод жанчын з часам 3:17, прапусціўшы наперад толькі 19 мужчын. І **Таццяна Андронава** першынствавала ў марафоне ў сваёй узроставай групе (45-49 гадоў). А **Анатоль Бобаў** выйграў 10 км (60-64 года). Са Смаргоні прыязджаў **Уладзімір Чырыца**, заняў другое месца ў абсалютным заліку марафона з часам 2:36. **Іван Саковіч** з Мядзела (2:43) стаў у "абсалюце" восьмым і мацнейшым у групе 45-49 гадоў.

У Лідзе (10) і Мінску (17) прайшлі абласныя кросы. Першыя камандныя месцы па сваіх тэрыторыях занялі прадстаўнікі Смаргонскага раёна і горада Маладзечна. Калектыў з Маладзечанскага раёна стаў чацвёртым. А ашмянскія спартсмены ўладкаваліся на шостай пазіцыі.

1 мая Маладзечаншчына прыме ўдзельнікаў другога адкрытага чэмпіянату Мінскай вобласці па марафоне (летась пераможцамі былі гаспадары **Сяргей Свірыдзёнак** і **Галіна Кавалёва**) ў рамках традыцыйнага лёгкаатлетычнага прабегу памяці экіпажа **М. Гастэлы**. Праводзяць яго ўпраўленне па фізкультуры, спорце і турызме (ФКСіТ) аблвыканкома, аддзелы па ФКСіТ раённага і гарадскога выканкомаў. Будуць дыстанцыі ў 5 км для дзяцей і пажылых, 20 км і марафон для ўсіх жадаючых. Як і летась - старт у Маладзечне (11. 00, рэгістрацыя ўдзельнікаў з 9. 00 у будынку палітэхнікума), фініш і ўзнагароджанне – у Чысці (16.00).

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

КОНКУРС

# Футболпрагноз: час рэваншаў

Надышоў час рашаючых гульняў у першым турніры па "Футболпрагнозе" («ФП»). У паўфіналах сустракаліся па дзве лепшыя каманды з папярэдніх груп.

**Паўфіналы**

| | | |
|---|---|---|
| Сапраўдныя зыходы: | 2 1 x 2 1 1 2 x 2 1 | 2 2 2 |
| **Ю. Ванслаў – Ю. Карпіцкі** | 1:4 (4:7) | |

Пасля бліскучага першага этапа ў Юліі адбыўся спад у гульні і, як вынік, сенсацыйнае паражэнне з буйным лікам.

| | | |
|---|---|---|
| **А. Бераснеў – А. Гармаза** | 2:2 (5:5) дад. час 1:0 (2:1) | |
| Сапраўдныя зыходы: | 2 1 x 2 1 1 2 x 2 1 | 2 2 2 |
| А. Бераснеў | 2 2 1 1 1 2 2 x 1 1 | 2 2 1 |
| А. Гармаза | 2 x x 2 x 2 2 1 x 1 | 2 x 1 |

Другі паўфінал прайшоў у напружанай барацьбе, дзе ніхто не хацеў саступаць. Спачатку дастаткова лёгка трэнер "Забудовы" забівае два галы запар (трэці і чацверты прагнозы). Але яшчэ да перапынку, на 38–й хвіліне, А. Бераснеў адквітаў адзін мяч (прагноз №5). У другім тайме ён жа на 68–й хвіліне (восьмы прагноз) забівае зноў. 2:2 – з такім лікам заканчваецца асноўны час. Ніхто не хацеў саступаць, але ў дадатковы час А. Бераснеў аформіў пуцёўку ў фінал сваім дакладным ударам.

Цікава, што перамогі абодвух фіналістаў былі "валявыя": спачатку па ходзе сустрэчы яны саступалі, але ўсё ж такі змаглі вырваць перамогу.

У двух фіналах сустракаліся прадстаўнікі адной групы ў "малым" – з групы "А", а ў "вялікім" – з групы "В", так што фіналісты ўжо сустракаліся паміж сабой на першым этапе. Тады перамогі атрымалі аўтары спартыўнай старонкі "РГ", і ў абодвух трэнераў з'явіўся выдатны шанц "расплаціцца з крыўдзіцелямі". Рэваншы адбыліся.

| | | |
|---|---|---|
| Матч за 3–е месца | | |
| **А. Гармаза – Ю. Ванслаў** | 2:0 (3:1) | |
| Фінал | | |
| **А. Бераснеў – Ю. Карпіцкі** | 1:1 (4:4) дад. час 1:0 (3:2) | |
| Сапраўдныя зыходы: | 1 1 x x 1 1 1 x 2 1 | 1 1 2 |
| А. Бераснеў | 1 2 2 1 1 1 1 1 1 2 | 1 1 2 |
| Ю. Карпіцкі | 1 2 2 2 1 1 x x 1 2 | 1 x 2 |

Пасля безвыніковага першага тайма стала відавочна, што сапернікі дастойныя адзін аднаго: засталося толькі два розныя прагнозы (№7 і 8), і любая памылка магла стаць вырашальнай. На 57–й хвіліне трэнер ДЮСШ здолеў адкрыць лік, і яму для перамогі патрэбна было, каб наступны матч завяршыўся перамогай адной з каманд. Але там была нічыя, і яго сапернік аднавіў раўнавагу ў ліку – зноў дадатковы час. Здавалася, што ў А. Бераснева не хопіць моцы на другую запар 120–хвілінную гульню, але ён бліскуча адгадаў усе тры зыходы і забіў "залаты" гол. Выдатнае завяршэнне чэмпіянату!

Цяпер пяройдзем да раздачы "сланоў". Увогуле, перамога А. Бераснева была нечаканая для нашых удзельнікаў. Пераможцай яго назваў толькі Аляксандр Шчарбацэвіч са Смаргоні, які разам з маладзечанцам Мікалаем Русаком атрымлівае падпіску на 3 месяцы. Мікалай адгадаў абодвух фіналістаў, але толькі "пераблытаў" пераможцу.

"Рэгіянальная газета" плануе правесці турнір па "ФП" сярод вас, шаноўныя чытачы, і зрабіць яго традыцыйным. Магчыма, у наступным нумары мы паведамім, што чакае нашага пераможцу. А цяпер, калі жадаеце ўзяць удзел у гэтай гульні, хуценька запаўняйце купон удзельніка і адпраўляйце ў рэдакцыю "РГ".

**Адгадай пераможцу**

альбо Падпіска ў падарунак

Прозвішча ________
Імя ________
Дам. адрас ________
________
Тэлефон ________
Пераможца ________
Фіналіст ________
Лік (асноўны час) ____

Адна парада: назва вашай каманды павінна складацца не больш чым з двух слоў на беларускай мове. Не раю выкарыстоўваць назвы папулярных футбольных каманд Беларусі і Еўропы, таму што можа ўзнікнуць блытаніна, а гэта не патрэбна ні мне, ні вам.

На адзін купон вы маеце права заявіць толькі адну каманду. Апошні тэрмін прыёму вашых заявак – 3 мая 1999 года.

У наступным нумары будзе надрукаваны яшчэ адзін купон. Не прапусціце!

*Юрый КАРПІЦКІ.*

*Турызм*

# «Зурбаган» - усяго толькі школьны турклуб

МАЛАДЗЕЧНА. У сярэдняй школе №11 створаны вучнёўскі турыстычны клуб «Зурбаган». Кіраўнік і ініцыятар стварэння – настаўніца **Ірына Лашук**.

Нядаўна турклуб правёў свой першы паход па Смаргоншчыне. Як напісаў у газету яго ўдзельнік васьмікласнік **Віталь Тамковіч**, па маршруце Солы - Снігяны - Старая Рудня - Жодзішкі - Пільцы - Смаргонь прайшлі дзевяць чалавек: шасцёра хлопчыкаў, дзве дзяўчынкі і кіраўнік паходу **Яўген Старыкаў**. У паходзе былі начоўкі і дзяжурствы ля вогнішча, азнаямленне з помнікамі архітэктуры, вандроўка па берагах Віліі.

Старшыня гарадскога турыстычнага клуба «Пілігрым» **Сяргей Бялкоў** лічыць, што стварэнне клуба ў школе - значная падзея не толькі для Маладзечна. Па першым паходзе відавочна, што турызмам у школе, а разам з ім і краязнаўствам тут вырашылі займацца ўсур'ёз.

*Аддзел інфармацыі.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАМ

- Прыхожую Нарачанка, стол-кнігу. Усё новае. Т. у Маладзечне 71388.
- МАРАЗІЛЬНІК М-163. ТЭЛЕФАНАВАЦЬ у Вілейцы 58409 (пасля $16^{00}$).
- Новую пральную машыну Індэзіт, 330 у. а. Т. у Маладзечне 53721.
- Скрыпку 1/2 з футаралам і смычком. Т. у Маладзечне 32532.
- Саджанцы: яблыні, чорных парэчак, маліны (п. Чысць, вул. Палявая, 23). Т. у Маладзечне 90344.
- Дубовы паркет 400x50. Т. у Маладзечне 71109.
- Воданагравальнік, вытвор. Італіі. Т. у Маладзечне 65094.
- **ВЕЛАСІПЕДЫ! ДАРОЖНЫЯ, ДАМСКІЯ, СКЛАДАНЫЯ. ОПТАМ І Ў РОЗНІЦУ. НЯДОРАГА. ДАСТАЎКА ПА ГОРАДЗЕ БЯСПЛАТНА. МАГЧЫМАЯ ДАСТАЎКА Ў ІНШЫЯ ГАРАДЫ І ВЁСКІ. ТАВАР СЕРТЫФІКАВАНЫ. ПП № 2002 ад 1996 г. ТЭЛЕФАНАВАЦЬ У ЛЮБЫ ЧАС. Т. у Маладзечне 52738.**
- Саджанцы пладовых дрэў і кустарнікаў розных сартоў і ўзросту; пасадачны матэрыял разнастайных сартоў гладыёлусаў, нарцысаў. Т. у Вілейцы 53645 (пасля $18^{00}$).
- Касавы апарат Мікра-101 або памяняю на будматэрыялы. Т. у Вілейцы 57938.
- **ВАННУ БЕЛУЮ, Б/У, 1.5 М; ЗМЯШАЛЬНІК НА КУХНЮ; СВЯЦІЛЬНЮ ЧЫРВОНУЮ.** Т. у Маладзечне 69122.
- Клавішы Ямаха-PSS-51, 200 у. а. Т. у Астраўцы 22928.
- Заручальныя пярсцёнкі, новыя, 583 пробы. Т. у Маладзечне 50938.
- Ружжо ІЖ-58, з/ч да МТ. Т. у Маладзечне 98691.
- **ІНКУБАТАР** на 90 яек. Т. у Маладзечне 61453, т. у Мінску 761417.
- Электрапліту 4-канфорачную. Т. у Маладзечне 62724 (пасля $18^{00}$).
- Золаташукальнік, 60 у. а. 222310, Маладзечна-7, а/с 28, дастаўка.
- Маразільнік Мінск-Атлант, новы, гарантыя, дастаўка. Т. у Смаргоні 33083.
- Плітку Брэст-Гефест, новую, танна, дастаўка. Т. у Смаргоні 33083.
- Халадзільнік Мінск-Атлант, новы, танна, гарант., дастаўка. Т. у Смаргоні 33083.
- Д/а станок, 110 у. а. Помпы Ручаёк, 16 у. а. Т. у Ашмянах 20086.
- Новыя халадзільнік , маразільнік. Т. у Маладзечне 35357.
- **БЛОКІ (ГАЗАСІЛІКАТНЫЯ); КАЦЁЛ ПАД УСЕ ВІДЫ ПАЛІВА (5-СЕКЦЫЙНЫ); КАЦЁЛ ВОДАНАГРАВАЛЬНЫ; ПАРКЕТ ЧЫРВОНАГА ДРЭВА (140 М²); СПАДАРОЖНІКАВУЮ АНТЭНУ.** Т. у Маладзечне 77832.
- Ракавіну-умывальнік, б/у. Т. у Маладзечне 60088.
- **АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАДАЕ** кухні Вязынка па безнаяўным разліку. Т. у Маладзечне 71738. Падлягае абавязковай сертыфікацыі.
- Тэлефон-факс Панасонік KX-F-50. Т. у Маладзечне 60459.
- Палатку гандлёвую 2x2.5; каляску дзіцячую прагулачную, паветраачышчальнік электрычны для кухні. Т. у Маладзечне 75830.
- Стол кухонны з табурэтамі, новыя. Т. у Маладзечне 77637.
- Тэлевізар Гарызонт 54 PTV655, 50 млн., гарантыя 1 год. Т. у Маладзечне 54004.
- Тэрмінова гандлёвы павільён без месца. Т. у Маладзечне 60758.
- Філянговыя дзверы, балконную раму. Т. у Маладзечне 52554.
- Яблыкі, капусту, цыбулю. Т. у Маладзечне 75953.
- Белыя мадэльныя туфлі, пам. 41-42. Т. у Маладзечне 76377, 75885.
- Маразільнік 6-камерны, 5-камерны, танна, дастаўка. Т. у Маладзечне 53264.
- Магнітафон Нота, нядорага. Т. у Маладзечне 61386.
- 2-спальны ложак (арабскі), прадам люстры (Чэхаславакія). Т. у Маладзечне 51777.
- Прыцэл начнога бачання ПНЧx68; фотаапарат Зеніт ЕТ-6. Усё новае. Т. у Вілейцы 54456.
- Маразільнік, халадзільнік; УАЗ-452, грузавы, 1983 г. в. Т. у Маладзечне 39121.
- Халадзільнік Атлант, новы. Т. у Маладзечне 73715, 77979.
- 2 касавых апарата ВМ па 220 у. а. Т. у Маладзечне 77151.

### КУПЛЮ

- Металічны вугалок 25x25 мм. Т. у Вілейцы 42333.
- Кантэйнер чыгуначны, 20 т. Т. у Маладзечне 50712.
- Спецадзенне. Т. у Маладзечне 61174.
- Чырвоную цэглу. Т. у Маладзечне 60471.

### ЗГУБЛЕНА

- Прапала кабыла ў верасні 1998 г., рабая, на лбе - белая зорачка, тры нагі да калена белыя, адна - чорная; жарабя - рыжае, на лбе - зорачка белая. Калі хто бачыў іх, просім пазваніць па тэл. у Маладзечне 28396, 53044.
- Згубленыя дакументы на імя Данчанкі Уладзіміра Міхайлавіча просьба вярнуць за ўзнагароду. Т. у Маладзечне 60644.

### ІНШАЕ

Вазьму злога сабаку. Т. у Маладзечне 60825.

